На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...
Якуб Колас

№ 111 (463)
Пятніца, 19 чэрвеня 1998 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 3000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля



**Сонца**

| | Усход | Захад |
|---|---|---|
| Віцебск | 4.18 | 21.42 |
| Магілёў | 4.26 | 21.32 |
| Гомель | 4.32 | 21.21 |
| Мінск | 4.36 | 21.43 |
| Гродна | 4.53 | 21.57 |
| Брэст | 5.03 | 21.48 |

*Апошняя квадра 17 чэрвеня.*



# Руководителям РАО "Газпром" нужны не улыбки, объятия и поцелуи белорусских вождей, а "живые" деньги. Сегодня они сокращают поставки газа, а завтра перекроют нефтяной кран. Вот уж действительно: нужны ли России такие "бедные родственники", как мы?

## З-за скарачэння паставак расійскай нафты падаюць аб'ёмы нафтаперапрацоўкі на беларускіх НПЗ

Згодна з дадзенымі на 17 чэрвеня, пярвічная перапрацоўка нафты на беларускіх нафтаперапрацоўчых заводах склала 4769 тыс. тон, альбо 92 працэнта да адпаведнага перыяду 1997 года. За 16 дзён чэрвеня беларускія НПЗ перапрацавалі 331 тыс. тон нафты, альбо 69 працэнтаў да аналагічнага перыяду чэрвеня 1997 года.

Асноўнай прычынай скарачэння аб'ёмаў нафтаперапрацоўкі, як адзначаюць кіраўнікі НПЗ, з'яўляецца змяншэнне паставак нафты з Расіі. У сваю чаргу, скарачэнне паставак выклікана запазычанасцю Беларусі: доўг за раней пастаўленую нафту і нафтапрадукты перавысіў 150 млн. долараў.

**Яўген ГРУБІЧ.**

## Генеральны сакратар НАТО не бачыць магчымасці паглыблення супрацоўніцтва гэтай арганізацыі з Беларуссю пры захаванні ёю цяперашняй палітыкі

Напярэдадні распачатых у панядзелак вучэнняў войскаў НАТО ля межаў Сербіі генеральны сакратар Паўночнаатлантычнага альянсу Хавьер Салана пабываў па запрашэнні Асацыяцыі еўрапейскіх журналістаў у Варшаве. Тут ён прыняў удзел у дыскусіі кангрэса гэтай арганізацыі, якая была прысвечана праблемам бяспекі на субкантыненце, адказаў на пытанні журналістаў. У адказ на пытанні карэспандэнта незалежнай беларускай газеты "Народная воля" (N 109 ад 17 чэрвеня г.г.) адносна супрацоўніцтва НАТО з Беларуссю і магчымасці заключэння з ёю дагавора, аналагічнага тым, што былі падпісаны з Расіяй і Украінай, Хавьер Салана заявіў: "Цяперашняя сітуацыя ў Беларусі добра вядома. Зразумела, мы трактуем Беларусь як дзяржаву, якая належыць да еўрапейскай цывілізацыі, аднак я не думаю, каб пры такіх паводзінах улад у Мінску можна было гаварыць аб усталяванні якіх бы там ні было адносінаў НАТО з Беларуссю".

Генеральны сакратар альянсу пацвердзіў, што ў бліжэйшай будучыні НАТО не мае намеру размяшчаць ядзерную зброю ў дзяржавах, якія цяпер становяцца членамі арганізацыі, — Польшчы, Чэхіі і Венгрыі. Больш таго, падкэсліў сп.Салана, "ядзернай зброі не будзе не толькі ў гэтых трох краінах, але і ў іншых еўрапейскіх дзяржавах — членах НАТО".

**Юрый КУЗНЯЦОЎ, БелаПАН.**

## Кожны чацвёрты працуе са стратамі

Як і належала чакаць, бясконцыя бадзёрыя паведамленні аб небывалым эканамічным росце на практыцы не адпавядаюць рэальнаму становішчу спраў. Згодна з паведамленнем Віцебскага абласнога ўпраўлення статыстыкі, толькі за тры месяцы года сума агульных страт прадпрыемстваў і арганізацый рэгіёна перавысіла 291 мільярд рублёў. Нагул жа дрэнныя вынікі сваёй дзейнасці маюць 483 працоўныя калектывы, або 26,8 працэнта ад іх агульнай колькасці. Больш за ўсё стратных прадпрыемстваў у сельскай гаспадарцы — 84 калгасы і саўгасы. Незайздросныя перспектывы ў 68 стратных будаўнічных арганізацыях і 62 прадпрыемствах гандлю і грамадскага харчавання. Горш за астатніх адчуваюць сябе камунальнікі і работнікі бытавога абслугоўвання насельніцтва. У апошніх колькасць стратных калектываў за год рэзка ўзрасла, і зараз у "бытоўцы" на мяжы развалу больш за 70 працэнтаў калектываў. Аб якіх поспехах і перспектывах можна гаварыць, калі ўзровень рэнтабельнасці прамысловай прадукцыі па вобласці зменшыўся і складае толькі 5,5 працэнта. Пакуль наша эканоміка будзе заставацца стратнай і кіравацца старымі адміністрацыйнымі метадамі, у яе не будзе ніякіх шанцаў на лепшае будучае.

**Уладзімір КОРЗУН.**

"Непричесанное" письмо

## Ливерку съели коты...

Уважаемая редакция!

Я хочу рассказать о том, что недавно довелось наблюдать.

В продовольственном магазине к витрине с колбасами подошел старичок в кедах. Посмотрел и что-то недовольно пробормотал. Для меня было ясно, что старика смутили цены: от 200 до 300 тысяч рублей за килограмм.

Он спросил у здоровенной продавщицы:

— Дочка, а где ливерка? Что-то давно ее нет.

Продавщица-монумент не без юмора ответила:

— Коты поели, дед. — И ухмыльнулась.

— И вареную колбасу тоже коты съели? — спросил дедок.

— Они, они, чтобы их черти ели, — заметила продавщица-монумент и громко засмеялась.

"Такая сама у кота отберет и съест", — подумалось мне.

— Иди, дед, не торчи тут. Все равно у тебя денег нет, даже колбасных огрызков не купишь, — съязвила продавщица.

Дедок тихо вздохнул и несколько раз пробормотал: "Колбаски хочется". Затем тихо поплелся к выходу.

На улице я разговорился с ним. Узнал, что он строитель высокого класса. Живет один. Дети живут в России. Пенсии едва хватает на хлеб и молоко. Можно было взять 5 соток под картофель, да сил нет обрабатывать. Да и боится, что все равно уворуют в поле уже выращенный урожай. Кстати, такое воровство в Солигорске стало массовым. У меня в прошлом году кто-то из голодающих ночью выкопал весь картофель. Я тогда не возмутился, помня свое послевоенное детство в Старых Дорогах.

— А что, — спросил я, — при большевиках было лучше?

— Лучше не лучше, но ливерка была.

Затем старик повернулся и пошел. Я еще заметил, что он, оглянулся, поднял с земли окурок, трясущимися руками чиркнул спичкой о коробок и затянулся.

"Господи, — подумал я, — до какой же степени надо довести строителя-мастера, чтобы он завидовал коту с ливеркой". А ведь не бомж, не алкоголик.

Я еще могу заработать или, на худой конец, уворовать кусок хлеба. А что будет, если мне будет столько лет, сколько теперь тому старику? Вот бы великому резонатору из "Рэзананса" БТ рассказать этот факт по телевидению, а не плести с экрана бессмыслицу о росте и улучшении чего-то в республике.

Вдали я заметил сгорбленную спину строителя-мастера, но вскоре потерял его из виду.

**Г.ЖЕВНЕРОВ.**
г.Солигорск.

**P.S.** *Прошу гонорар оставить в редакции для развития "Народной воли".*

## З 19 чэрвеня ў Беларусі часова ўстанаўліваецца новы парадак куплі-продажу замежнай валюты

Рашэннем праўлення Нацыянальнага банка Беларусі з 19 чэрвеня ў рэспубліцы часова ўстанаўліваецца новы парадак куплі-продажу замежнай валюты.

Як паведамілі ва ўпраўленні інфармацыі Нацбанка, з 19 чэрвеня купля і продаж упаўнаважанымі банкамі долараў ЗША, нямецкіх марак, расійскіх рублёў і ўкраінскіх грыўнаў па даручэнні і за кошт сродкаў прадпрыемстваў, а таксама ад свайго імя і за свой кошт праводзяцца толькі на таргах Міжбанкаўскай валютнай біржы. Па-за біржай могуць прадаць пералічаныя валюты прадпрыемствам у суме не больш за 3000 адзінак па адным кантракце; пры гэтым разбіўка агульнай сумы кантракту, па якім ажыццяўляюцца разлікі, не дапускаецца.

Адначасова банкі могуць купіць па-за біржай у прадпрыемстваў пералічаныя віды замежных валют у суме не больш за 1000 адзінак. Гэты парадак не распаўсюджваецца на здзелкі па іншых валютах, а таксама на куплю-продаж замежнай валюты банкамі і юрыдычнымі асобамі, якія маюць ліцэнзію Нацыянальнага банка на правядзенне валютаабменных аперацый за кошт асабістых сродкаў грамадзян.

Як вядома, здзелкі па куплі-продажу замежнай валюты на Міжбанкаўскай валютнай біржы ажыццяўляліся на асноўнай гандлёвай сесіі, дзе прадпрыемствы рэалізоўвалі валюту, якая падлягала абавязковаму продажу, і куплялі яе ж для закупак па крытычным імпарце, а таксама на дадатковай сесіі, падчас якой Нацыянальны банк купляў у прадпрыемстваў па курсе, які ўстанаўліваўся зыходзячы з попыту і прапановы, замежную валюту, што засталася пасля абавязковага продажу. Цяпер на дадатковай сесіі і ўпаўнаважаныя банкі змогуць купіць і прадаць замежную валюту па курсе, які ўстанаўліваецца зыходзячы з попыту і прапановы і з улікам інфляцыі. Пры гэтым сродкі, выручаныя ад продажу замежнай валюты на дадатковай сесіі, не падлягаюць падаткаабкладанню. Межавы памер камісійнага збору банкаў па такіх аперацыях устаноўлены ў памеры не больш за адзін працэнт ад сумы здзелкі.

Паводле звестак з Нацбанка, новы парадак куплі-продажу замежнай валюты прыняты згодна з Праграмай неадкладных захадаў па стабілізацыі валютнага рынку і абменнага курсу беларускага рубля і закліканы ўдасканальваць кіруемасць валютнага рынку і кантроль за ім.

**Аляксей АРЭШКА, БелаПАН.**

Премьеры



## Ох, уж эти страсти. На сцене...

Премьерой мюзикла "Целуй меня, Кэт!" заканчивает сезон Государственный театр музыкальной комедии. Поставил спектакль художественный руководитель и главный режиссер театра Борис Лагода. Мюзикл "Целуй меня, Кэт!" американского композитора Коула Портера создавался как музыкальная версия пьесы У.Шекспира "Укрощение строптивой".

Зрители увидят на сцене настоящие современные страсти. Либретто, написанное Ириной Шитиковой, — это социальный памфлет об актерской жизни.

**На снимке:** *сцена из спектакля "Целуй меня, Кэт!".*

**Фото Аркадия НИКОЛАЕВА, БелТА.**

Демократия по-белорусски

## Послы остаются в "Дроздах", а престиж страны опустился "ниже колена"...

За демаршами послов иностранных государств последовал-таки указ президента Александра Лукашенко, отменяющий выселение дипкорпуса из резиденции "Дрозды". Он появился вовремя: 17 июня пятеро послов стран Европейского Союза — Великобритании, Франции, Германии, Греции, Италии — прибыли к министру иностранных дел Ивану Антоновичу с решительным предупреждением: или официальный Минск прекратит все это, или правительства отзовут из республики чрезвычайных и полномочных представителей на неопределенный срок. В момент уже совершенно скандального обострения ситуации глава внешнеполитического ведомства с явным облегчением предъявил подоспевший указ...

Указ отменяет прежние распоряжения об отселении дипкорпуса, меняет статус комплекса "Дрозды", режим охраны резиденции.

Так нужно ли было смешить весь мир? Ладно, еще полбеды, что насмешили, — так "ниже колена" опустили престиж страны!..

**Людмила ВАЛЕНТИНОВА.**

Слышали?

## Экс-министр Василий Леонов: семь месяцев под стражей плюс еще два

16 июня 1998 года судья И.И.Гринкевич суда города Жодино отказал в изменении меры пресечения подследственному В.С.Леонову. Первоначальный срок содержания под стражей бывшего министра сельского хозяйства республики истек 11 июня. Постановление о семимесячном заключении в СИЗО Василий Севастьянович обжаловал сразу же после его вынесения. Тем не менее его жалоба по неизвестным причинам не попала в суд. Рассматривалась лишь аналогичная по содержанию жалоба адвоката Леонова — Ольги Зудовой.

Мера пресечения для экс-министра оставлена без изменения, и, более того, содержание его под стражей продлено еще на 2 месяца. Не возымели действия аргументы адвоката о незаконности и необоснованности тюремного заключения для одного из самых именитых подследственных в Беларуси.

По мнению Ольги Зудовой, которым она поделилась с представителями прессы, грубо нарушены нормы уголовно-процессуального законодательства, которые регулируют порядок продления сроков содержания под стражей. По ее убеждению, при таких обстоятельствах суд обязан был изменить меру пресечения, однако этого не произошло. "Впервые в своей адвокатской практике я столкнулась с таким", — сказала Ольга Васильевна.

О содержании нарушений адвокат не проинформировала журналистов, поскольку связана подпиской о неразглашении тайны следствия и строго соблюдает обязательство.

Стоит напомнить читателям, что в номере "Народной воли" за 14 мая печаталось открытое письмо президенту Александру Лукашенко жены Василия Севастьяновича — Антонины Леоновой. Его, это письмо "...Мы все же надеемся, что истина восторжествует!", публиковали и другие независимые от власти издания. В нем супруга экс-министра спрашивала: "Почему теперь Леонова держат под стражей?". Свою аргументацию в защиту мужа женщина подытожила так: "Вот почему сегодня я имею право заявить: нет уголовного дела Леонова! Есть дело политическое!".

**Людмила МАСЛЮКОВА.**

## Шквальны вецер не пашкадаваў ні дахі, ні пасевы

Стыхія не абмінула і Магілёўшчыну. У абласным штабе па надзвычайных сітуацыях падвялі папярэднія вынікі нанесенага ўрону і паведамілі, што на працягу апошніх чатырох дзён у вобласці пацярпелі 12 раёнаў і горад Шклоў, дзе пашкоджаны дахі прадпрыемстваў і 120 дамоў у прыватным сектары. Асабліва істотны ўрон нанесены аграгандлевай фірме "Днепр" Магілёўскага раёна: разбурана паўтара гектара шкляных цяпліц, дзе спелі памідоры.

Моцны лівень, град і шквальны вецер пашкодзілі ў вобласці 878 гектараў пасеваў розных сельскагаспадарчых культур. Стыхія пакінула свой след у 62 населеных пунктах Магілёўшчыны. Разбураны чатыры жылыя дамы і тры вытворчыя памяшканні, пашкоджана звыш 250 дамоў і 125 вытворчых аб'ектаў, 76 падстанцый і 45 ліній электраперадач, 13 АТС і 36,4 кіламетра ліній праваднога вяшчання. Агульны ўрон ад стыхійнага бедства падлічваецца.

**Мікалай НАЗАРОВІЧ, БелТА.**

## 20 чэрвеня — апошні дзень падпіскі на "Народную волю"!

**Вы хочаце ведаць праўду?**
*Чытайце "Народную волю".*
**Вам патрэбна парада?**
*Калі ласка, звяртайцеся ў "Народную волю".*
**Вы любіце пачытаць, як кажуць, для душы?**
*Такія матэрыялы ёсць у кожным нумары "Народнай волі".*

**Словам, "Народная воля" — газета для народа.**
**Хто яшчэ не падпісаўся — зрабіце гэта сёння альбо заўтра.**
**20 чэрвеня — апошні дзень падпіскі на "Народную волю"!**
**Кошт на месяц — усяго 45.000 рублёў.**

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **6 3 2 2 2** (індэкс выдання)

Народная Воля

Колькасць камплектаў

на 1998 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА** на газету **6 3 2 2 2** (індэкс выдання)

ПВ | месца | літар

Народная Воля

Кошт: падпіскі ___ руб. пераадрасоўкі ___ руб. Колькасць камплектаў

на 1998 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

СНГ: день сегодняшний

### Форум продлится до сентября

Как уже сообщалось, при Исполнительном секретариате СНГ продолжает свою работу форум.

Созданы две рабочие группы, которые занимаются вопросами реформирования органов Содружества и экономической кооперации в рамках СНГ.

Форум, который, как отметил Борис Березовский, носит продолжительный характер, завершит работу в конце августа — начале сентября. По всей вероятности, подвести итоги его работы главы государств Содружества смогут в середине осени.

На первом заседании форума особо была выделена проблема грузино-абхазского конфликта. Ситуацию в Гальском районе Абхазии Борис Березовский считает "абсолютно драматичной", и вопросы, связанные с разрешением конфликта, по его мнению, надо решать "срочно и по существу". Само обращение президента Грузии к Борису Ельцину, председателю Совета глав государств СНГ, к исполнительному секретарю, а также обращение представителей грузинской делегации свидетельствует о том, что Содружество имеет потенциал для разрешения конфликта, сказал Борис Березовский.

### Егор Строев не согласен с Госдумой

Спикер Совета Федерации Егор Строев отрицательно относится к принятому Госдумой Закону "О порядке опубликования и вступления федеральных конституционных законов, федеральных законов, актов палат Федерального Собрания", дающему право на их опубликование без подписи президента РФ.

Комментируя в субботу в интервью "Интерфаксу" решение Думы, Е.Строев сказал, что категорически возражает против такого подхода к законодательной практике. "Установившееся конституционное право президента России непосягаемо ни с какой стороны", — подчеркнул спикер.

### Украина интегрируется в Европейский Союз

Президент Украины Леонид Кучма своим указом утвердил стратегию интеграции Украины в Европейский Союз.

Целью документа является реализация стратегического курса государства на интеграцию в Европейский Союз, обеспечение вхождения Украины в европейское политическое, экономическое и правовое пространство.

### Из Балтийского моря — в Черное...

Возможность соединения транспортными коридорами регионов Балтийского, Черного и Каспийского морей обсуждалась на встрече президента Украины Леонида Кучмы и министра иностранных дел Эстонии Тоомаса Ильвеса в Киеве.

Поддержав идею завязки транспортными коридорами Черного, Балтийского и Каспийского морей, Т.Ильвес высказал готовность Эстонии участвовать в финансировании нефтетерминала в Одессе и заинтересованность в функционировании паромной переправы на Черном море.

Л.Кучма, в свою очередь, подчеркнул стремление Украины к активному сотрудничеству с Советом стран Балтийского моря и желание государства приобрести статус постоянного наблюдателя в этой структуре.

### Французская компания "Перно-Рикар" купила Ереванский коньячный завод

Как сообщили в пресс-службе правительства, общая сумма сделки составляет 30 миллионов долларов.

### "Славнефть" расширяет белорусский рынок

"Российско-белорусская нефтегазовая компания (НГК) "Славнефть" планирует построить в Беларуси 50 автозаправочных станций", — сообщил Агентству нефтяной информации представитель ЗАО "Славнефть-М" (координирует и управляет дочерними предприятиями НГК в республике).

По информации государственного концерна "Белнефтехим", в настоящее время в Беларуси уже работают 4 АЗС (в Минске, Бобруйске, на шоссе Брест—Москва и Гродно—Минск) под вывеской "Славнефти". Последняя АЗС введена в строй в последних числах мая этого года на 27-м километре шоссе Гродно—Минск. Ее стоимость составила немногим более 500 тысяч долларов.

Всего в течение ближайших лет на территории Беларуси предусматривается строительство 71 АЗС, проведение реконструкций 45 действующих заправок на основных автомобильных магистралях Беларуси. На выполнение мероприятий, предусмотренных программой, необходимы финансовые ресурсы в объеме 1.720 трлн. белорусских рублей (48 миллионов долларов).

### АвтоВАЗ уменьшает выпуск машин

На 125 тысяч машин сокращает в текущем году производство АвтоВАЗ, что составляет примерно 17 процентов от запланированного к выпуску количества в 748.500 автомобилей.

Причиной такого решения стали финансовые трудности, потрясающие страну, говорится в документе. По мнению руководства завода, сокращение производства напрямую затронет интересы не только работников предприятия, но и страны в целом.



### Надвор'е

19 і 20 чэрвеня на тэрыторыі рэспублікі воблачна з праясненнямі, дажджы, навальніцы, у цэнтральных раёнах моцныя дажджы. Тэмпература паветра ўначы +7...+12, удзень — +18...+23; па ўсходзе рэспублікі ўначы +10...+15, удзень +22...+27.

*Народнаму пісьменніку Беларусі Васілю Быкаву — 74*

# Урокі



Першая мая сустрэча з Васілём Уладзіміравічам адбылася ў самым пачатку шасцідзесятых. Тады я, скончыўшы сярэднюю школу з медалём, быў на нейкай вяршыне патрыятычнага ўздыму і напісаў за адну ноч цэлую паэму аб Радзіме, з'явіўся са сваім творам у кабінеце літкансультанта "Гродненской правды". Васіль Быкаў уважліва прачытаў маю паэму тут жа, пры мне, і, гледзячы ў задуменні некалькі хвілін не ў мой бок, а ў вакно, сказаў: "Вучыцца трэба табе яшчэ многа, каб пісаць прыгожа. І пажадана толькі на беларускай мове..." А паэма была на рускай.

В.Быкаў у той час такой вялікай славы, вядома, не меў. Але мне чамусьці запалі ў душу словы: пісаць трэба на роднай мове. Ды толькі час быў не той. Тады, пабыўшы на канікулах месяц у родзічаў-гараджан, мы, вясковыя хлапчукі, прыязджалі дахаты і "русачылі". Так лічылася ганарова.

А паступіўшы на першы курс фізіка-матэматычнага факультэта Гродзенскага педінстытута імя Янкі Купалы, я з задавальненнем пачаў наведваць заняткі літаратурнага аб'яднання пры "Гродненской правде" (яна выходзіла на рускай мове). Нашымі настаўнікамі тады былі Васіль Быкаў і пакойны цяпер Аляксей Карпюк. Памятаю, як уважліва адносіліся яны да нас, пачаткоўцаў, як бераглі тых, хто падаваў надзею. Памятаю, як, аналізуючы новыя нашы творы, Васіль Уладзіміравіч "прыдзіраўся", як кажуць, да кожнага слова, калі заўважаў, што яно не "беларускага паходжання". А да вершаў, напісаных на рускай мове", В.Быкаў ставіўся, мне здавалася, неяк абыякава. У тым сэнсе, што настойваў, каб пісалі мы на беларускай. Памятаю, нехта з нас (У.Шурпа ці У.Васько) напісаў: "Споткнувшись о луч, встрепенулась, скользнула в камыш, задремавшая щука". Васіль Уладзіміравіч прачытаў гэтыя радкі і адзначыў: "Калі б гэтак сказаў Ясенін, то было б вельмі прыгожа, а калі кажа наш беларускі хлапец, дык карыстаецца ён не сваімі словамі. Не ад яго сэрца думка ідзе..."

На вялікі жаль, надоўга мне давялося наведваць заняткі ў В.Быкава. Праз два гады я быў прызваны на вайсковую службу, з якой вярнуўся праз чатыры доўгія гады, і ўжо не меў магчымасці працягваць гэтую вучобу. Але я перакананы, што шмат чаму навучыліся, скажам, Сяргей Габрусевіч — прафесар філасофіі Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы, Уладзімір Васько — журналіст з Лідчыны, Уладзімір Шурпа — былы рэдактар абласнога радыё, які, на вялікі жаль, нядаўна пакінуў нас, іншыя мае сябры і аднагодкі.

Я чаму пачаў з успамінаў, якія на ўсё жыццё запалі ў маю душу. Бо цяпер амаль на кожным кроку чую, як калечаць нашу родную мову. Што ні чыноўнік, дык выступае з дакладам на рускай. Ды і якая яна руская! Хіба што пародыя на яе. Бо вымаўляюць не "ре", а "рэ", ды такое цвёрдае, што быццам цягне зубамі па камені.

Вось і хочацца такім сказаць: няўжо вы забыліся, як з дзяцінства пасвілі кароў, хадзілі за плугам. І маці вам не гаварылі: "Бери кнут! Запрягай лошадку!", а павучалі: "Хапай пугу! Закладвай коніка!" Заўважце, па-нашаму гучыць больш прывабна і лагодна.

І яшчэ. Як недарэчна было б, калі б, скажам, англійскі дзяржаўны чыноўнік рабіў даклад для свайго народа на... японскай мове. Дык такога не бывае. А чаму ў нас такое магчыма? Проста, скажаце, прывычка, якая прыжылася за доўгія гады панавання рускай мовы? Але ж мы хочам будаваць сваю, беларускую дэмакратычную дзяржаву. Чаму Літоўскае княства гаварыла на беларускай і пісала на ёй усе паперы, а мы не можам?

Я не маю маральнага права забыць урокі В.Быкава. Я адчуваю на сабе ўсе праблемы сялянскага жыцця і пішу пра гэта. Як пішу, няхай пра гэта памяркуе чытач, увазе якога прапаную наступныя вершы.

### Я малю цябе, Бог

*Ах, як хочацца песні,*
*Калі бачу жніво!*
*Ходзіць бусел па пожні —*
*Значыць, браткі, жывём!*
*Будзе хлеб і да хлеба,*
*Будзе пляшка на трох.*
*Толькі войнаў не трэба.*
*Я малю цябе, Бог.*
*Ах, як мроіцца шчасце,*
*Калі марна жывём!*
*Кружыць бусел над хатай...*
*Значыць, мы не памром.*
*І сынам і ўнукам*
*Шчыра зычу — дай Бог,*
*Каб быў хлеб і да хлеба,*
*Яшчэ смачны пірог.*
*Колькі шчасця на сэрцы,*
*Як пяе Беларусь.*
*Мне матуліны песні*
*Лёс здаўна берагуць.*
*Л'юцца вольна матывы*
*Над сяўбой і жнівом,*
*Каб радзіма Купалы*
*Засталася жывой.*

### Косяць сена мужыкі

*Прыхавала ноч аблокі,*
*Выплыў ранак сінявокі.*
*А ў даліне ля ракі*
*Косяць сена мужыкі.*
*Як пацеркі, звоняць росы,*
*Асыпаюцца ў пракосы.*
*Бы радкі, пракосы гэты.*
*Мужыкі ж мае — паэты.*
*І пяюць працяжна косы,*
*Пахне лета сенакосам.*
*Час прыйшоў цяпер такі —*
*Пахнуць сенам мужыкі.*
*Назіраю з сябрам Генам —*
*Воз плыве, бы горка, з сена.*
*І ўздыхнула зноў шчаслівa,*
*Нарадзіўшы сена, ніва.*

**P.S.** Балюча стала на сэрцы, калі прачытаў у "Народнай волі", пастаянным падпісчыкам якой з'яўляюся, што наш Васіль Быкаў часова будзе жыць і працаваць за мяжой. Дай Бог яму хутчэйшага вяртання на Радзіму. Яго чакае ўся Беларусь, самаадданым і самаахвярным сынам якой ён з'яўляецца.

**Канстанцін СТАНКЕВІЧ,**
**жыхар г.Воранава.**

Лісты за краты

## Ганаруся

Ганаруся такой моладдзю, якую прадстаўляе Аляксей Шыдлоўскі. Поўнасцю яго падтрымліваю, жадаю сілы духу, вытрымкі і здароўя.

Такія, як Шыдлоўскі, здолеюць зрабіць нашу Бацькаўшчыну вольнай і заможнай. Ведаю, як цяжка змагацца, але волю на талерачцы з блакітным краем яшчэ нікому не падносілі. Усё, што дарага і жадана, трэба выношваць у сэрцы і песціць у руках. Аб гэтым я пішу ў сваім вершы, які ахвярую Аляксею і яго паплечнікам.

### Трэба мець грамадзянскую мужнасць

*Трэба мець грамадзянскую мужнасць*
*Не на кухні паціху гудзець,*
*А на вуліцу выйсці і крыкнуць:*
*"Годзе нам ўжо ў запечны сядзець!"*

*Мы адразу людзьмі тады станем,*
*Долю лепшую будзем мы мець,*
*Мы баяцца ўсяго перастанем*
*І не будзем ў нядолі гібець!*

**Мікалай КУКСО.**
г.п.Івянец
Валожынскага раёна.

## Ты всегда с нами, папа!

Дорогой и любимый наш папа! Вот уже второй год мы не можем обнять тебя и поздравить с Днем твоего рождения. Тебя отняли у нас, лишили нас отцовской заботы, ласки, внимания. Мы считаем: тебя изолировали за твой ум, за свободолюбие, за то, что не побоялся открыто сказать "нет" диктатуре, одним из первых среди депутатов Верховного Совета 13-го созыва подписал заявление об импичменте президенту. Тебя не сломили ни телефонные угрозы, которые раздавались с октября 1995 года, ни многочисленные проверки твоей фирмы, начиная с местных проверяющих и кончая республиканскими, ни "десанты", которые спускались тебе на голову.

Как власти хотели сделать тебя экономическим преступником! Но даже контролеры, проверяющие деятельность твоей фирмы, поражались твоей честности, принципиальности. Экономического преступления не получилось. Но тебя все ровно "сделали" уголовником.

Мы были на суде. Мы, папочка, запомнили лица судивших тебя. Запомнили судью Шелепеня, обвинителя Голубовича, который весь процесс рисовал чертиков и жевал жвачку, пожилых заседателей. Выражение лиц у этих людей до удивления было одинаковым. Ни капельки доброты в этих глазах мы не увидели. Наверное, бессмысленно у них спрашивать: как спите вы, вершители судеб?

В тот момент, когда судья, опустив глаза, объявил приговор — 7 лет, нам хотелось крикнуть — за что? Но горький тяжелый комок сдавил нам горло.

Папа, теперь мы стали намного взрослее своих сверстников. Мы постоянно задаем себе вопрос — в каком государстве мы живем? И исходя из того, что сделали с нашей семьей, с тобой, приходим к выводу — в государстве лжи, насилия, попирания прав человека. Ведь даже за злоумышленное убийство, совершенное впервые, дают меньше, чем дали тебе якобы за дачу взятки.

Сам по себе встает вопрос: вроде такое простое дело — взятка. Так почему же это дело вела прокуратура Минской области, отдел по особо важным делам, следователь по особо важным поручениям? Папочка, мы очень любим свою Беларусь, но, глядя на несправедливость, которая сейчас творится, нам хочется уехать отсюда, чтобы наши дети не проходили уроки жестокой жизни, а родились и жили в свободном демократическом государстве.

Но ты, папочка, за нас не беспокойся, береги себя. Нас люди не бросают. В нашем маленьком городке все понимают и стараются поддержать нас, помочь. Спасибо Вам, добрые люди, за ваши письма, телефонные звонки, добрые слова.

И еще, папочка, мы все равно верим, что рано или поздно справедливость восторжествует и все, кто причинил боль и страдания нашей семье, будут наказаны судьбой, Богом.

Папочка! Поздравляем тебя с Днем рождения! Тебе всего лишь 39! Еще полжизни впереди. Самое главное, папа, сбереги свое здоровье. Ты нам очень нужен! Мама тебя очень любит и ждет. Ты всегда с нами, папа!

**Твои дочери Наташа и Зоя**
**КУДИНОВЫ.**
г.Ивацевичи.

## Слёзы гора і радасці

Дарагі Аляксей Шыдлоўскі!

Да нас, сумленных грамадзян Беларусі, праз "Народную волю" дайшоў твой ліст. Яго нельга чытаць без слёз. Слёз гора, бо лепшыя людзі трапляюць за краты, і адначасова — слёз радасці, што Беларусь яшчэ мае такіх сыноў. Значыць, жыве Беларусь!

Трымайся, сынок! І першай і асноўнай тваёй мэтай пакуль павінна быць захаванне здароўя ва ўмовах няволі. Яно патрэбна не толькі табе, але і тваёй сям'і і Бацькаўшчыне.

Як кажуць рускія, "нет худа без добра". Тым, хто трапіў за краты, як ты пішаш, з-за дробязі ці непаразумення, таксама патрэбны твой ясны розум.

Нават у старэйшых людзей ачмурэнне паступова праходзіць. Мне расказвала адна настаўніца, як у магазіне ў чарзе з дзесятак бабуль накінуліся на адну жанчыну, якая спрабавала апраўдваць рэжым. Я сама была сведкай, як на рынку група пакупнікоў дала добры адпор маладой расіянцы, якая з пенай у рота даводзіла, што беларусы павінны пачувацца шчаслівымі, маючы такое кіраўніцтва. І ні шчыраванне зімоўскіх ці "пярэстых" з дубінкамі не дапамогуць цямрэчы быць вечнай. Буду шчаслівай, Алёша, калі мой ліст хоць трошкі цябе падтрымае.

Жыве Беларусь!

**Вольга ШКАТУЛА,**
**пенсіянерка.**
Гродна.

Из первых уст

## Нет ничего постояннее, чем всякие временные нововведения. Таможенные...

Возмущению вновь испеченных автовладельцев, казалось, не было предела. Уезжали за кордон по одним законам, когда таможенную пошлину разрешалось выплачивать как валютой, так и белорусскими рублями. А пересекли границу обратно — уже действуют новые правила: всем непременно валюту подавай или российские рубли. А где их взять-то при таком "отлаженном" механизме обмена денег на Беларуси?

И многие автолюбители были застигнуты, что называется, врасплох.

Особенно напряженным был тот, первый, понедельник после президентского субботнего декрета. Почему субботнего? Хотя и подписан он был в пятницу, а вступал в действие с субботы, как того пожелал президент — со дня опубликования.

Неразберихи, замечу, было много. В Минске на таможенном пункте "Озерцо-авто" среди автовладельцев назревал настоящий бунт. И они потребовали "для наглядности" выделить корреспондента "Народной воли", чтобы все свои претензии и разочарования высказать на месте. Истории были одна поучительнее другой. Один оплатил финансовые гарантии на границе, в тамошнем таможенном пункте, еще в конце мая и в белорусских рублях. Другой, наоборот, внес сумму уже здесь и в иностранной валюте, но именно 6 июня. Как быть в таком случае? Вопросы, вопросы...

Чем больше я задавал их потом начальнику таможенного пункта Владимиру Кузнецову, тем больше менялся он в лице. По всему видно было: острые и конкретные вопросы ставили его в тупик, он не мог найти сразу на них ответы. И прятался за спасительную фразу, что не уполномочен-де давать интервью. И рекомендовал обратиться в Государственный таможенный комитет Республики Беларусь.

Курс Владимир Владимирович Кузнецов держал верный: коль уж и отфутболивать настырного посетителя, то уж лучше в высшие инстанции. А меня как газетчика интересовало совершенно иное: каким документом руководствуются работники Минской таможни при оформлении транспортных средств физических лиц. И задавал я простые житейские вопросы, какими "напичкали" меня клиенты таможни: как оформить машину в одном, другом, третьем случае...

Буквально за считанные минуты до моего приезда в пункте "Озерцо-авто" побывал заместитель начальника Минской центральной таможни Валерий Ковалев, но свежих указаний, как проинформировали меня, не оставил. Да и не мог Валерий Иванович, как я потом убедился, сказать что-то новое, подсказать выход из сложных ситуаций по взиманию таможенной пошлины.

Судите сами. В 10 часов утра 8 июня 1998 года Государственный таможенный комитет направил в свои подразделения письмо-распоряжение за номером 08/2856 "О финансовых гарантиях, предоставляемых физическими лицами". После многочисленных звонков-возмущений граждан комитет вынужден был внести исправления. И вот уже в 16 часов 30 минут в дополнение к письму 08/2856 по факсимильной связи рассылается письмо 08/2858, в котором уже более продуманы как механизм таможенного оформления транспортных средств в целом, так и меры взимания таможенных пошлин в частности.

В беседе с начальником Минской центральной таможни А.Саликовым я заметил, что имей работники таможенных пунктов такой документ с утра, пожалуй, не было бы многих инцидентов, в том числе ненужных поисков автовладельцами валюты и т.д.

Как пояснил Аркадий Семенович Саликов, все финансовые гарантии, оплаченные до 6 июня с.г. в белорусских рублях, отныне засчитываются при таможенном оформлении ввезенных машин. Те же, кто внес залоговую сумму в рублях после шестого июня, вынужден будет оплатить пошлину в валюте, а залог в рублях будет возвращен в течение трех дней.

Удивляет в этой истории другое. За несколько дней до вступления в силу Декрета №8 президента Республики Беларусь руководство Государственного таможенного комитета на пресс-конференции заверяло журналистов, что о всяких намечаемых изменениях в таможенном оформлении будет заблаговременно даваться информация в СМИ. И вдруг все вышло в точности до наоборот, нежели обещалось.

Но, как видно из этой истории с президентским Декретом №8, ни в одном ведомстве, в том числе и таможенном, не могут предусмотреть, какой документ вступит в силу "со дня опубликования". О какой тогда предварительной информации о нововведениях можно говорить?

**Виктор СВИРКО.**

**P.S.** *Когда материал уже стоял на газетной полосе, в редакцию позвонил очередной "возмутитель спокойствия" автовладелец Л.Михайлик. Леонида Платоновича уж очень беспокоила неинформированность самих таможенников. Границу он пересекал именно 6 числа и после "0" часов (если быть точным, то в 12 дня), когда Декрет №8 уже вступил в законную силу. А на приграничном таможенном пункте все продолжали взимать белорусские "зайцы" за финансовую гарантию. Спрашивается, зачем было делать это, если уже требовалась только валюта.*

*А теперь Леониду Платоновичу приходится изворачиваться, чтобы оплатить пошлину на сей раз в валюте, и только тогда он сможет получить свои "зайцы" обратно. А не проще ли, по его мнению, вначале вернуть белорусские рубли, а потом требовать американские доллары или российские дензнаки?*

*В здравом смысле Леониду Михайлику не откажешь. Вот почему по предложению Леонида Платоновича и других автовладельцев мы и обращаемся к руководству Государственного таможенного комитета Республики Беларусь и персонально к первому заместителю председателя А.Н.Деревяшко, подписавшему 9 июня 1998 года приказ №203-ОД, уточняющий меры реализации Декрета президента Республики Беларусь №8 от 5 июня 1998 года. Видимо, и это подсказанное жизнью конкретное предложение, касающееся настроения людей, не стоит считать запоздалым, поскольку и указания таможенникам появились не в день опубликования президентского декрета, а значительно позже.*

## У Мінску прайшоў масавы пікет у падтрымку Беларускага гуманітарнага ліцэя

Днямі каля 100 чалавек прынялі ўдзел у пікеце ў падтрымку Беларускага гуманітарнага ліцэя — у асноўным гэта былі навучэнцы ліцэя і іх бацькі.

Гісторыя з месцазнаходжаннем ліцэя доўжыцца з мінулага года, калі будынак, які размешчаны ў цэнтры горада, перадаваўся на баланс Упраўлення справамі прэзідэнта. Тады шляхам шматлікіх акцый пратэсту вучням і іх бацькам удалося адстаяць ліцэй на адзін навучальны год.

Удзельнікі цяперашняга пікета трымалі ў руках плакаты з надпісамі "Усё лепшае — адміністрацыі прэзідэнта", "Не аддадзім ліцэй!", "Рукі прэч ад ліцэя!", а таксама збіралі подпісы ў абарону ліцэя і раздавалі тэксты звароту. У ім, у прыватнасці, паведамляецца, што, згодна з праектам падрыхтаванай ў Савеце міністраў пастановы, ліцэй хочуць аб'яднаць з ліцэем пры Беларускім дзяржаўным універсітэце.

Варта адзначыць, што Мінскі гарвыканкам вызначыў месцам правядзення пікету Міхайлаўскі сквер, нягледзячы на тое, што ў заяўцы ўпаміналіся месцы ля будынку Адміністрацыі прэзідэнта, на Кастрычніцкай плошчы ці плошчы Незалежнасці. Арганізатары акцыі планавалі праводзіць яе цэлы тыдзень, аднак улады прадаставілі ім для гэтага толькі адзін дзень.

**Генадзь БАРБАРЫЧ,**
**БелаПАН.**

## "Грак" гатовы ісці ў разведку

Спецыялісты вытворчага аб'яднання "Белгеалогія" хутка атрымаюць выраблeную ў дзяржаўным навукова-вытворчым аб'яднанні "Агат" унікальную электраўстаноўку "Грак-3" для разведкі залежаў карысных выкапняў. Прынцып яе дзеяння заснаваны на замерах супраціўлення залягаючых пластоў электраімпульсам на глыбіні да трох кіламетраў. Атрыманыя звесткі дапамогуць геолагам больш дакладна вызначыць і ацаніць якасны склад зямных нетраў на ўчастку, які іх цікавіць.

Электраразведачная ўстаноўка будзе праходзіць палявыя выпрабаванні ў геафізічнай экспедыцыі па Мінскай вобласці.

**Таццяна СМІРНОВА, БелТА.**

## У сваім доме навядзём парадак самі

Першае на Віцебшчыне таварыства ўласнікаў сумеснага домаўладання зарэгістравана ў Оршы. Доўгі час ніхто не хацеў прымаць на свой баланс здадзены ў эксплуатацыю ў студзені 1997 года 80-кватэрны жылы дом, пабудаваны на долевых пачатках. Каб не цярпець больш бытавых нязручнасцей, тады за справу ўзяліся самі жыхары. Кожны кватэранаймальнік цяпер сам зоймецца эксплуатацыяй і добраўпарадкаваннем свайго жылля. Ад іх імя заключаны ініцыятыўнай групай дамовы з адпаведнымі жыллёва-камунальнымі арганізацыямі. Гэта падзея супала яшчэ з адной прыемнай для гараджан навіной — узвядзеннем на водазаборы "Оршыцы" станцыі абезжалезвання, што адразу непараўнальна палепшыла якасць пітной вады ў некалькіх аршанскіх мікрараёнах. Цяпер толькі ў раёне чыгуначнага вакзала засталіся для жыхароў пытанні з якасцю вады.

## Паблізу Глыбокага знойдзена новае месца масавага пахавання ваеннапалонных

З незвычайнай і сумнай місіяй пабываў у невялічкай вёсачцы Арэхаўна Глыбоцкага раёна пасол Італіі ў Рэспубліцы Беларусь. Ля аўтастрады Полацк — Вильнюс, зусім непадалёку ад раённага цэнтра, цяпер канчаткова ўстаноўлена яшчэ адно месца масавага пахавання ягоных суайчыннікаў, стаўшых у гады вайны ваеннапалоннымі ў гітлераўскіх захопнікаў. Паблізу горада ва ўрочышчы Барок раней ужо быў устаноўлены памятны знак на магілах італьянцаў, якія адмовіліся ўдзельнічаць у карных экспедыцыях фашыстаў супраць мірнага насельніцтва. За гэта сумленныя салдаты з Італіі былі жорстка катаваныя, а затым у канцы чэрвеня 1944 года іх расстралялі. Застаюцца ў жывых сведкі яшчэ адной трагедыі мінулай вайны. Менавіта па іх сведчаннях спецыяльная пошукавая рота ў гэтым месцы знайшла астанкі людзей і дакладна ўстанавіла іх прыналежнасць да ваеннапалонных італьянскіх салдат.

**Уладзімір ШЫК.**

Крымінал

## 84-гадовая пенсіянерка не разгубілася

Спроба разбою была паспяхова спынена ў Аршанскім раёне. Адзін з удзельнікаў нападу затрыманы мясцовымі жыхарамі і здадзены нараду міліцыі.

А падзеі развіваліся такім чынам. Сярод белага дня 15 чэрвеня ў дом 84-гадовай пенсіянеркі, якая пражывае ў вёсцы Межава Аршанскага раёна, праз акно залезлі трое невядомых мужчын з мэтай крадзяжу. За гэтым заняткам і застала зладзеяў гаспадыня дома. Пад пагрозай нажа злачынцы прымусілі жанчыну аддаць ім значную суму грошай, з якой мелі намер уцячы. Аднак ахвяра разбойнага нападу пачала крычаць, клікаць на дапамогу. Крыкі пачуў яе сын, які праходзіў каля дома. Разам з мясцовымі жыхарамі ён кінуўся на затрыманне рабаўнікоў. Аднаго злодзея ім удалося злавіць. Пенсіянерка тым часам пазваніла ў райаддзел міліцыі, дзе ўстанавілі, што падазроны ў разбоі — "гастралёр" з Магілёўскай вобласці.

## Калі б не казырок...

Казырок балкона на 9-м паверсе шматкватэрнага дома на вуліцы Леніна ў Оршы выратаваў жыццё юнай аматарцы прыгод і даў магчымасць выявіць маньякаў.

Вечарам 15 чэрвеня ў Аршанскі гараддзел міліцыі паступіла паведамленне з гарадскога тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання нумар 1 аб тым, што сюды дастаўлена 15-гадовая дзяўчына са страсеннем мазгоў, ударамі і сінякамі на целе. Яна была скінута з даху 9-павярховага дома і толькі цудам ацалела. Пацярпелая растлумачыла, што на паддашку гэтага дома яна распівала спіртныя напіткі з двума незнаёмцамі, дзе і адбылася драма. Мужчыны збілі яе, сарвалі адзенне, адзін з іх пагражаў нават забіць і скінуў уніз. Казырок балкона перагарадзіў шлях і выратаваў дзяўчыне жыццё.

Супрацоўнікі дарожна-паставой службы ДАІ па прыметах затрымалі падазроных — двух мясцовых жахароў. Затрыманыя падазраюцца таксама ў забойстве жынчыны, расчлянёны труп якой быў знойдзены 21 мая ў рацэ Днепр у межах горада.

*Віцебск.*

**Вольга СІДАРОВІЧ,**
**БелТА.**

Стоп-кадр



Центр реабилитации больных из пострадавших от чернобыльской аварии районов Гомельщины открыт при Светиловичской сельской участковой больнице Ветковского района. Небольшое (на 20 коек) отделение центра при высокоэффективном оборудовании и квалифицированном медперсонале позволяет вставать на ноги, в прямом смысле этого слова, больным с целым букетом заболеваний.

**На снимке:** *больные Тамара Нежданова из Чечерска и Сергей Самсонов из Ветки с медсестрой Еленой Гребенниковой на прогулке.*

**Фото Сергея ХОЛОДИЛИНА, БелТА.**

## Чарговы злачынны "аўтарытэт" забіты ў Брэсце

У Брэсце прайшло пахаванне чарговага "аўтарытэту": у рэанімацыйным аддзяленні бальніцы памёр смяротна паранены Аляксандр Лагвіновіч.

Больш за тыдзень ён правёў у ахоўваемай палаце без прытомнасці пасля агнястрэльнага ранення і раненняў ад гранаты, што разарвалася каля яго ног, якія ён атрымаў падчас крымінальных разборак.

Следству вядомыя імёны ўдзельнікаў "сходкі", таму магчыма, што забойцы (або забойца) панясуць пакаранне. Леташні забойца брэсцкага "дазорнага" Аляксандра Стасюка, на месца якога прэтэндаваў Аляксандр Лагвіновіч, хаця і вядомы следству, аднак дагэтуль не знойдзены.

Зрэшты, у Брэсце забіваюць не толькі крымінальных "аўтарытэтаў". Паводле даных пракуратуры, у гэтым годзе ў вобласці адзначаецца рост наўмысных забойстваў амаль на 2 працэнты ў параўнанні з адпаведным леташнім перыядам. І хаця раскрывальнасць падобных злачынстваў на Брэстчыне дастаткова высокая, аб зніжэнні колькасці забойстваў гаварыць не даводзіцца. Часцей за ўсё забіваюць падчас скандалаў на сямейна-бытавой глебе, некаторыя забойствы можна лічыць заказнымі.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН.**

У суседзяў

## Польшча паспяхова заваёўвае літоўскі рынак

Імкненне Польшчы ўцягнуць Літву ў сферу свайго ўплыву відавочнае. Прынамсі, эканамічнае наступленне адбываецца даволі актыўна.

У духу сваёй стратэгічнай арыентацыі на Еўрасаюз і НАТА Літва падпісала з Польшчай дагавор аб свабодным гандлі і бязвізавым рэжыме. Літоўскія палітыкі празаходняй арыентацыі ўжо адкрытым тэкстам называюць Польшчу сваім стратэгічным саюзнікам, які дапамагае рыхтавацца да "ўступных экзаменаў" у еўраатлантычныя структуры.

Аднак па першых прыкметах такога супрацоўніцтва відаць, што новая "старэйшая сястра" менш за ўсё зацікаўлена ва ўмацаванні канкурэнтаздольнасці літоўскіх прадпрымальнікаў. Наадварот, Польшча вельмі паспяхова змагла выкарыстаць існуючую сітуацыю на сваю карысць. "Чаўнакі" ўжо завалілі літоўскія крамы і базары польскім шырспажывам, імкліва займае ён "свае месца" і на паліцах буйных магазінаў. Як стала вядома, з 1995 года польскі імпарт у Літву штогод узрастаў на 25—30 працэнтаў, і Польшча па гэтым паказчыку ўжо займае першае месца сярод краін Усходняй і Цэнтральнай Еўропы. У той жа час літоўскі экспарт у Польшчу змяншаецца. Напрыклад, у мінулым годзе ён скараціўся на 6 працэнтаў, а польскі імпарт у Літву ўзрос на 50 працэнтаў у параўнанні з 1996 годам.

Палякі ўмацоўваюцца на літоўскім рынку са сваімі халадзільнікамі, пральнымі машынамі, некаторымі відамі электратэхнічнага абсталявання, сельскагаспадарчых машын і будматэрыялаў. А самае сумнае, што яны істотна ўварваліся ў "нішу" харчовых прадуктаў, што выклікала сур'ёзную трывогу ў прадстаўнікоў сельскагаспадарчага сектара Літвы. Зусім зразумела, што многія літоўскія вытворцы "націскаюць" на ўрад, каб дагавор аб свабодным гандлі з Польшчай неадкладна дапаўняўся новымі пратаколамі, якія могуць стварыць роўныя ўмовы ў няроўнай канкурэнтнай барацьбе са "стратэгічным партнёрам". Многія лічаць, што нядрэнна было б нармалізаваць гандлёвыя адносіны з усходнімі суседзямі — Расіяй, Беларуссю, Украінай і Казахстанам. Знаёмыя і прывычныя рынкі — куды больш надзейна. Такія настроі ў дзелавых колах Літвы, зразумела, выклікаюць раздражненне ў палітыкаў-"патрыётаў", якія нават у гандлі бачаць небяспеку для незалежнасці і палітычнага лёсу Літвы.

**Альгімантас БРАЗАЙЦІС, БелТА.**

Суд

## Наркодело

В начале июня Ленинский районный суд столицы завершил процесс по делу Кельвина Билли Агайиси, обвиняемого в одном из самых страшных преступлений — распространении наркотиков. Темнокожему африканцу суд назначил семь лет лишения свободы с конфискацией имущества и отбытием наказания в исправительно-трудовой колонии усиленного режима.

Отбывать свой срок узник будет под именем Кельвина Чима Узома. Белорусский суд вернул ему отцовское имя, не дожидаясь официального решения нигерийских властей по этому вопросу.

Семь лет нигериец получил по статье 219 за пересылку наркотиков. Этот срок поглотил назначенные ему также 5 лет по статье 75 за контрабанду и 6 месяцев по статье 192 за использование поддельного паспорта. Предъявляемые Чиму Узома обвинения в подделке удостоверения личности и действия в составе организованной преступной группы отклонены. Предварительное следствие не представило доказательств, не подтвердилось это и в ходе судебного исследования.

Суд, пока его решение не отменено, прав. Однако, на мой взгляд, следствие неопровержимо доказало только одно — одноразовое использование подсудимым своего поддельного паспорта при получении прибывшей посылки на имя, указанное в этом удостоверении личности. И хотя этим деянием ущерба никому не причинено, тем не менее действия обвиняемого подпадают под статью 192, часть третья.

Определенный судом срок наказания по этой статье к началу судебного процесса уже истек, и Кельвин Чима Узома подлежал освобождению прямо в зале суда. Да, КГБ имел основания подозревать нигерийца в наркобизнесе. Но ведь ни следователи Комитета, ни суд Ленинского района не нашли неопровержимых доказательств вины.

Не пойман — не вор. Так в народной интерпретации звучит основополагающий юридический принцип презумпции невиновности. Нигериец Кельвин Чима не пойман за руку ни на контрабанде, ни на пересылке, ни на распространении наркотиков.

Все доказательство его преступления построено на показаниях одной из свидетельниц, утверждающей, что ей рассказывали о **возможной** причастности данного нигерийца к наркобизнесу. Но ведь свидетель — это очевидец, то есть тот, кто наблюдал или слышал происшедшее лично сам. Пересказ информации о событии, полученной данным гражданином вне места происходящего от третьего лица, свидетельскими показаниями быть не может. Тем более что свидетельница, которая якобы говорила такие слова, категорически это отрицала.

Показаний же свидетелей, которые видели, как Чима Узома распространял наркотики или хотя бы говорил на эту тему, нет. Отсутствуют и записи перехваченных спецслужбами телефонных или иных разговоров обвиняемого на тему наркотиков вообще. Нет у следствия фотографий и видеоматериалов продажи, передачи или какого-либо другого способа распространения наркотических средств.

Не совершал нигериец и контрабанду, поскольку не он, а ему была направлена посылка. А следствие и суд так и не доказали, что Чима Узома знал о наличии в посылке наркотиков. Догадываться — мог. И выпрыгивание с балкона третьего этажа при появлении группы захвата КГБ красноречиво об этом свидетельствует. Но не могут быть доказательством совершения преступления сомнения суда в стремлении обвиняемого вернуться на Родину, волнение и испуг подозреваемого, противоречивые его показания при допросе без адвоката во время захвата, использование подсудимым не своего имени при знакомстве.

Не может являться доказательством обвинения и справка из КГБ, что заграничные абоненты нигерийца Кельвина Чима ведут телефонные переговоры с людьми, которые подозреваются в связях с наркомафией. Потому как, во-первых, об участии подсудимого в наркоцепочке разговор при этом не шел, а во-вторых, сам Чима Узома с этими подозреваемыми диалога не вел.

Но даже если бы и вел, то из того, что разговаривал с преступником или подозреваемым в его совершении, вовсе не следует, что преступил закон сам. Тем не менее именно подозрения суд принял как доказательства. Документального подтверждения участия в наркобизнесе при обыске по месту жительства, в том числе и каких-либо записей о наркотиках, не обнаружено. У следствия нет даже доказательств, что Кельвин Чима вообще держал этот преступный товар в руках. Нигериец получил семь лет лишения свободы фактически лишь за то, что оказался в квартире, где обнаружен наркотик.

С наркомафией надо бороться. Наркодельцы и их пособники должны быть изолированы от общества. Но не по подозрению в наркобизенсе, а только если участие в преступных деяниях будет доказано. А потому считаю, что темнокожего африканца упрятали за решетку во имя спасения чести мундира КГБ, который арестовал Кельвина Чима Узома, не имея документального подтверждения своих подозрений. Расчет, видимо, был на то, что в жестоких условиях белорусской тюрьмы нигериец все признает.

Однако обвиняемый оказался человеком мужественным и вину свою не признал. А ведь чернокожему Кельвину Чима было неизмеримо тяжелее, чем арестантам с белым цветом кожи. За семь месяцев предварительного заключения у него не было ни одного свидания с друзьями или хотя бы с соотечественниками. Не получал нигериец и продовольственных передач, а это значит, влачил полуголодное существование.

Страдания усугублялись составом тюремного рациона. Ведь африканец вырос на другой пище, чем мы. Образно говоря, ему нужны бананы, а не картошка. Есть непривычную пищу — мучение. Страдал Кельвин Чима не только от голода, но и от холода. Как известно, климат Беларуси резко отличается от африканского. Тем не менее всю зиму нигериец провел в тюрьме КГБ без теплой одежды. При нем не было даже личных вещей.

Свое 30-летие Кельвин Чима встретил в ожидании суда на нарах "американки". В качестве поздравительного адреса по случаю юбилея КГБ вручило дорогому "гостю" обвинительное заключение. У "наркомафиози" не было денег на оплату защитника, и его интересы представляли дежурные адвокаты. Причем в ходе предварительного следствия был один, а на суде обвиняемый с удивлением увидел уже другого. Подсудимому ни следствие, ни суд даже не объяснили причину замены адвоката, исходя, видимо, из известной пословицы, что дареному коню в зубы не смотрят. Не говоря уже о том, что подсудимый был лишен возможности беседовать с защитником наедине, поскольку назначенный судом адвокат английским языком не владел.

Современная белорусская тюрьма по своей сути ничем не отличается от средневековой инквизиции. Сейчас уже не растягивают на дыбе, не вытягивают признания раскаленными клещами, но остальные способы и методы издевательств полностью сохранились. Так, например, судя по тому, как почесывался нигериец, душ перед отправкой в зал суда он не принимал. А ведь черный цвет кожи вовсе не означает, что ее обладатель не нуждается в ежедневном мытье. Во время объявления приговора Чима Узома стоял со скованными позади руками. Каких акробатических усилий стоило ему в таком положении почесать ухо. Если это не издевательство над личностью, то что тогда?

**Валерий ЩУКИН,**
**секретарь комиссии по национальной безопасности, обороне и борьбе с преступностью Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва.**

